№ 12 (3753)

12 лютага 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РЭЗАНАНС

## Як пралічыўся Сукала...

### *Старшыня Вярхоўнага суда Алег Сукала, мякка кажучы, здзівіў сваім “матэматычным талентам”.*

Падводзячы вынікі працы судоў у мінулым годзе ў газеце “Советская Белоруссия”, ён паведаміў: “У мінулым годзе ў папраўчых установах апынулася на 3000 чалавек менш, чым у 2011-м. І на пачатак бягучага года там утрымліваліся 24 тысячы асуджаных. Гэта на 6 тысяч менш, чым у 2011 годзе. А ліміт напаўняльнасці нашых месцаў пазбаўлення волі — 32,5 тысячы чалавек. Я кажу гэта таму, што да сёння існуюць розныя міфы аб тым, што нашы калоніі перапоўненыя”.

Такім чынам атрымліваецца, што, па звестках старшыні Вярхоўнага суда, у 2011 годзе за кратамі было 30 тысяч чалавек, у 2012-м — 24 тысячы.

Чаму ж тады ў сусветных рэйтынгах па колькасці зняволеных Беларусь займае першыя месцы, а тыя, хто адбывае пакаранне ў турмах і калоніях, скардзяцца на перанаселенасць?

*— Статыстыка — больш дакладная навука, чым юрыспрудэнцыя,* — адзначае былы адвакат, а цяпер праваабаронца Павел Сапелка. *— Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь у выдадзеным статыстычным зборніку “Правапарушэнні ў Рэспубліцы Беларусь” (Мінск, 2012) прыводзіць іншыя даныя. Па звестках статыстыкаў, на канец 2011 года ў месцах пазбаўлення волі (папраўчых і выхаваўчых калоніях, турмах, СІЗА і арыштных дамах) змяшчалася 38.100 чалавек. Значыць, 8410 чалавек у Валянціна Сукалы згубіліся. Ці акругліліся... Але, акругляючы да дзясяткаў тысяч, атрымалі б 40.000. Што бліжэй да праўды, бо, кажучы аб папраўчых установах, Алег Сукала, відавочна, не ўлічыў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу. Разам на 6000 чалавек больш за норму змяшчалася ў месцах пазбаўлення волі на канец 2011 года. Колькі цяпер — невядома. Але і старшыні Вярхоўнага суда я не веру. Акрамя ўсяго іншага, колькасць асуджаных і месцаў для іх утрымання не заўсёды вызначае якасць умоў адбыцця пакарання. Хто вырашыў, што ў калоніях, СІЗА і турмах можа ўтрымлівацца 32,5 тысячы зняволеных? Ужо дакладна не абцяжараныя ведамі пра сучасныя падыходы да кіравання турмой эксперты...*

Дарэчы, не будзем забывацца, што ў мінулым годзе ў краіне прайшла амністыя, у выніку якой 2,8 тысячы чалавек выйшлі на волю. Да гуманізацыі правасуддзя гэтая кампанія не мае ніякага дачынення. Акрамя таго, у статыстыку не трапілі людзі, якія знаходзяцца ў следчых ізалятарах, дзе ўмовы яшчэ больш дрэнныя, чым у калоніях.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Згодна з беларускім заканадаўствам, норма жылой плошчы на аднаго асуджанага ў папраўчых калоніях і турмах не можа быць менш за два квадратныя метры, у выхаваўчых калоніях - за тры з паловай квадратныя метры, у лячэбных папраўчых установах - за тры квадратныя метры.

Два квадратныя метры — гэта, выбачайце, памер стандартнага долу, дзе чалавек знаходзіць свой апошні прытулак. Наўрад ці жывому чалавеку па разумных санітарна-гігіенічных нормах патрэбна столькі ж месца, колькі мёртваму.

Пры гэтым нават Генеральная пракуратура Беларусі, праводзячы праверкі, не аднойчы адзначала наяўнасць парушэнняў заканадаўства, якое рэгулюе матэрыяльна-бытавое і медыка-санітарнае забеспячэнне зняволеных. І звяртала ўвагу на тое, што ліміт колькасці зняволеных у некаторых папраўчых установах, усталяваны МУС, завышаны і не адпавядае рэальнай умяшчальнасці жылых памяшканняў. Пасля закрыцця Мінскай турмы сітуацыя палепшыцца ну ніяк не магла.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

АФІЦЫЙНА

## *Лукашэнка паляцеў на адпачынак*

Кароткі адпачынак кіраўнік Беларусі правядзе ў Сочы, сумясціўшы яго з працоўнымі сустрэчамі.

Як паведамляе прэс-служба Аляксандра Лукашэнкі, “у ходзе тэлефоннай размовы, якая адбылася напярэдадні, прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін запрасіў Аляксандра Лукашэнку наведаць Сочы і азнаёміцца з ходам падрыхтоўкі да Алімпійскіх гульняў 2014 года. Плануецца, што кіраўнік беларускай дзяржавы агледзіць спартыўныя і іншыя аб’екты, наведае міжнародныя спаборніцтвы, правядзе шэраг рабочых сустрэч. Там жа прэзідэнт Рэспублікі Беларусь правядзе кароткачасовы адпачынак”.

СІТУАЦЫЯ

## *Украінскі праваабаронца шукае паратунку ў Беларусі*

Украінскі праваабаронца Мікалай Кажушко, які з’яўляецца кіраўніком Днепрапятроўскай абласной праваабарончай арганізацыі “Дапаможам дзецям”, папрасіў прытулку ў Беларусі.

Свой учынак Кажушко тлумачыць наступным чынам: *“Я быў вымушаны з’ехаць з Украіны пасля таго, як сталі з’яўляцца рэальныя пагрозы майму жыццю. Я займаўся пытаннямі незаконнага размеркавання чыноўнікамі жылля для дзяцей-сірот, перадачай іх сваякам чыноўнікаў, уступіў у перапіску з рознымі дзяржаўнымі органамі. На жаль, нават звароты да прэзідэнта Украіны, высокіх урадавых чыноўнікаў выніку не далі”.*

Мікалай Кажушко кажа, што рашэнне пакінуць Украіну ён прыняў пасля таго, як 3 студзеня па замове ўплывовага дэпутата Днепрапятроўскага абласнога савета Паўла Бязуглага, вядомага ў крымінальных колах пад мянушкамі Гном і Лысы, на яго здзейснілі замах.

У Беларусь Мікалай Кажушко прыехаў не адразу. Спачатку ён накіраваўся ў Маскву. 10 студзеня ён папрасіў палітычнага прытулку ў прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Але пасля таго, як стаў атрымліваць па тэлефоне пагрозы фізічнай расправы, пераехаў у Беларусь і накіраваў прашэнне аб прадастаўленні палітычнага прытулку на імя Аляксандра Лукашэнкі.

Згодна з беларускім заканадаўствам, грамадзянін Украіны Мікалай Кажушко можа знаходзіцца ў Беларусі тры месяцы. Калі ж не будзе падстаў, каб падоўжыць яму гэты тэрмін, то ён вымушаны будзе пакінуць тэрыторыю краіны. Па словах Мікалая Кажушко, ён цяпер жыве ў Мінску ў кватэры свайго сябра.Сітуацыя з украінскім праваабаронцам незвычайная для Беларусі. Не вядома, ці ведае ён пра тое, што некаторым украінскім праваабаронцам забаронены ўезд на тэрыторыю Беларусі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СЕНСАЦЫЯ!



## *«Я дзякую вам ад усяго сэрца за ўсю любоў і працу, праз якую вы неслі са мной цяжар майго служэння, і прашу прабачэння ўсіх маіх хібаў»*

### *Папа Рымскі Бенедзікт XVI адмовіўся ад прастола*

Пра сыход у адстаўку ён падчас сустрэчы ў Ватыкане. Святы Айцец спаслаўся на стан свайго здароўя.

“Разважыўшы гэта шмат разоў у сумленні перад Богам, я набыў упэўненасць, што праз сталы ўзрост мае сілы недастатковыя, каб належным чынам ажыццяўляць служэнне Св. Пятра, — заявіў Бенедзікт XVI, звяртаючыся да кардыналаў. — Я цалкам усведамляю, што гэта служэнне ў сваёй духоўнай сутнасці павінна выконвацца не толькі праз дзеянні і словы, але, не ў меншай ступені, праз цярпенне і малітву”. І заключыў: “Таму, цалкам усведамляючы сур’ёзнасць гэтага акта, у поўнай свабодзе, я заяўляю, што я адмаўляюся ад служэння Рымскага Біскупа, Наступніка Св. Пятра, ускладзенае на мяне кардыналамі 19 красавіка 2005 года, так, што з 28 лютага 2013 года, ад 20.00, Рымскі Пасад, Пасад Св. Пятра будзе звольнены, і паўстане неабходнасць, каб тыя, хто мае кампетэнцыю, склікалі Канклаў для абрання новага Папы”.

Апошні раз выпадак абвяшчэння Папам Рымскім сваёй добраахвотнай адстаўкі адбыўся амаль 500 гадоў таму: у 1415 годзе ад сану адрокся Рыгор XII.

Бенедзікту XVI (Ёзэфу Ратцынгеру) 85 гадоў.

БЛИЦ



## Прозрение...

Певец советского прошлого и имперского будущего России, один из любимых писателей Александра Лукашенко, главный редактор газеты “Завтра” Александр Проханов в рамках Минской книжной ярмарки провел встречу с белорусскими читателями. И удивил.

На вопрос, чего все-таки не хватает сегодняшней Беларуси, он ответил: **“Беларуси не хватает вхождения в огромную европейскую сверхгосударственность. Я думаю, как только это произойдет, вся чаша белорусской культуры, белорусского космоса наполнится до краев. Что этому препятствует? Медленность исторического времени”.**

С одной стороны, такое неожиданное умозаключение странно было услышать из уст человека, воспевающего СССР, Сталина, Северную Корею и оправдывающего большие человеческие жертвы высокими идеями и задачами диктаторов. С другой стороны, как человек, желающий добра своей стране — России, Александр Проханов не может не видеть, что ориентация на режимы-изгои дает его стране только лишние голодные рты и проблемы. Ориентация на развитые страны — новые технологические и интеллектуальные прорывы. Именно поэтому в России все чаще стали звучать голоса “прозревших” — тех, кто считает, что именно в разумном европейском векторе развития будущее этой страны.

Беларусь не Россия. Мы всегда были европейцами и отбились от общей семьи из-за вопиющей исторической несправедливости. Возвращаться назад — вот наш единственный выход. Даже Проханов это понял.

**Елена НОВИКОВА.**

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ



*Михаил ПАСТУХОВ,*
*доктор юридических наук, профессор,*
*судья первого состава Конституционного суда*

## Запоздалая реабилитация

*Публикация “Несправедливый приговор” (“Народная Воля” №6, 22.01.2013), насколько мне известно, вызвала огромный интерес, так как с проблемами белорусской судебной и правоохранительной систем уже столкнулись многие. Достоянием общественности стал случай, когда суды и правоохранительные органы вынуждены были выплатить 100-миллионную компенсацию предпринимателю Андрею Бондаренко за то, что он был осужден незаконно и провел в неволе почти два года. Но почему у нас такое несправедливое правосудие, прокуратура, предварительное следствие?*

### Главное — результат

В нынешних условиях все правоохранительные органы работают не во благо человека, как это записано в Конституции (стст.1, 2, 21), Законе “О прокуратуре” (ст.4), Кодексе о судоустройстве и статусе судей (ст.10), а ради достижения запланированных показателей. В борьбе за “показатель” человек становится жертвой, принесенной на алтарь ведомственных интересов.

В публикации “Несправедливый приговор” приводится несколько примеров, когда непричастных к преступлению людей жестоко избивали только для того, чтобы она дали “признательные” показания. Совсем как в 1930-е годы: признание — царица доказательств. Все последующие попытки поставить под сомнение эти липовые доказательства, как правило, ни к чему не приводят. И это несмотря на то, что и следователь, и прокурор, и судья знают, как были получены нужные показания. Знают, но молчат, чтобы не испортить картину сфабрикованного уголовного дела. Принципиальная позиция по делу кого-то из субъектов (следователя, прокурора, судьи) чревата тем, что все ведомства остаются без нужных для отчетности показателей. Потому со строптивцами или не понимающими “правила игры” сотрудниками проводится соответствующая работа, после чего правоохранительный механизм функционирует без сбоев и осечек.

Неслучайно у нас так мало выносится оправдательных приговоров. По-прежнему они расцениваются как брак в следственной и прокурорской деятельности. Правда, за последние годы число оправдательных приговоров выросло. С чем это связано, однозначно сказать трудно. Но можно предположить, что в условиях реализации Программы совершенствования деятельности общих судов, утвержденной президентским указом от 10 октября 2011 г. №454, требования судов к материалам предварительного следствия несколько повысились.

Так, судебная статистика по оправданным лицам выглядит следующим образом: в 2005 г. — 126; в 2008 г. — 191, в 2010 г. — 217; в 2011 г. — 382 *(такие данные приводит заместитель председателя Верховного суда В.Калинкович в статье “Строгое соблюдение принципа презумпции невиновности — центральная задача, стоящая перед судами”, опубликованной в журнале “Судовы веснік” №2 за 2012 год*).

Несмотря на “поштучный” рост оправданных в последние годы, это всего лишь 0,5—0,7% от общей массы уголовных дел, завершившихся вынесением приговора. Например, в 2011 г. было окончено производством 55.066 уголовных дел, в 2010 г. — 63.389 *(см.: Информация о работе судов Республики Беларусь в 2011 году, журнал “Юстиция Беларуси” №3).*

Следует также учитывать, что каждый оправдательный приговор подвергается “нападкам” со стороны органов прокуратуры. Так, в течение 2011 года в кассационном и надзорном порядке было отменено 1323 приговора, в том числе 48 приговоров ввиду необоснованного оправдания или прекращения дел.

Что касается необоснованного осуждения, то случаи отмены приговоров носят единичный характер. Здесь “порядок” обеспечивает само судебное ведомство и, как правило, скандалов не допускает. В этом смысле Андрей Бондаренко оказался редким исключением, которое испортило “статистику” судам и вызвало столько недовольства на всех уровнях судебной иерархии.

Следует также учитывать, что каждый оправдательный приговор подвергается “нападкам” со стороны органов прокуратуры. Так, в течение 2011 года в кассационном и надзорном порядке было отменено 1323 приговора, в том числе 48 приговоров ввиду необоснованного оправдания или прекращения дел.

Что касается необоснованного осуждения, то случаи отмены приговоров носят единичный характер. Здесь “порядок” обеспечивает само судебное ведомство и, как правило, скандалов не допускает. В этом смысле Андрей Бондаренко оказался редким исключением, которое испортило “статистику” судам и вызвало столько недовольства на всех уровнях судебной иерархии.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *«Няўжо трэба было, каб мой унук аддаў за гэта сваё жыццё?!»*

*У судзе Фрунзенскага раёна сталіцы пачаўся працэс над кіроўцам “Porshe”, які 13 лістапада насмерць збіў 9-гадовага Улада Грудзьева літаральна ў некалькіх метрах ад ганка школы.*

Маці забітага Улада не магла вымавіць ні слова. Бабуля хлопчыка скрозь слёзы толькі і змагла сказаць “Народнай Волі”: *“Цяпер школу агарадзілі плотам, зрабілі ўсё, каб такога больш не здарылася. І грошы на гэта адразу знайшліся. Але якую цану заплаціла за гэта наша сям’я? Няўжо трэба было, каб мой унук аддаў за гэта сваё жыццё?! Чаму раней нельга было ўсё гэта зрабіць? Якая маральная кампенсацыя можа заглушыць нашы пачуцці? Якія грошы?”*

Натуральна, і абвінавачаны Андрэй Забабура разумеў, што грашыма сітуацыю не выправіш. Тым больш што ён сам у той злашчасны вечар ехаў у школу забіраць свайго сына з трэніроўкі па каратэ. Аднак мужчына ўсё-такі перадаў маці Яўгена больш за 23.000 долараў. Пра тое, што Забабура быў у шоку, калі зразумеў увесь трагізм сітуацыі, сведчаць словы аднакласніка Улада Яўгена Субата, які ў той вечар быў разам з ім. Яўген сказаў мне ў прыватнай размове: *“Нас было сямёра, і мы гулялі ў зомбі. Як Улада збіла машына, я не бачыў, але пачуў страшны крык. Там нейкі мужчына жудасна крычаў... Такім голасам... Такога крыку я ніколі не чуў. Ён націскаў і націскаў Уладу на грудзі... Гэта ён яму масаж сэрца так рабіў. Я ад гэтага відовішча збег дадому”.*



Маці Яўгена дадала: *“Сапраўды, ён прыбег дадому ўвесь белы і кажа: “Мама, там дзядзька крычыць! Там Улада збіла машына!” Вельмі страшна гэта ўсё! На месцы Улада мог апынуцца мой сын ці нехта іншы. Не дай Бог перажыць каму такое”.*

Адвакат з боку пацярпелых паведаміла, што на меру пакарання можа паўплываць пазіцыя яе давернікаў. Пакуль у размовах, але не на працэсе, з боку маці і бабулі хлопчыка прагучала, што ім не стане лягчэй, калі кіроўцу пасадзяць у турму. Калі ж яны запатрабуюць, каб суд максімальна жорста пакараў 37-гадовага Андрэя Забабуру, то яму могуць прысудзіць 5 гадоў пазбаўлення волі.

Андрэя Забабуру абвінавачваюць у парушэнні правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Ад 10 снежня 2012 года кіроўцу трымаюць пад вартай.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПРЫСУД

## *Васільева асудзілі на 14 гадоў*

Учора ў Мінскім абласным судзе быў агалошаны прысуд быламу першаму намесніку старшыні Мінскага гарвыканкама **Ігару Васільеву**.

Чыноўніка абвінавачвалі ў спробе атрымаць хабар памерам паўмільёна долараў. Судовае пасяджэнне праходзіла за зачыненымі дзвярыма. Віну Васільеў у судзе не прызнаў.

Дзяржабвінаваўца пракурор Андрэй Лыцін прасіў суд прысудзіць Васільеву 15 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Рашэнне суда — 14 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

КАНФЛІКТ

## *Эдуард Акулін ці Барыс Пятровіч?*

*Як стала вядома “Народнай Волі”, **Эдуард Акулін** сыходзіць з пасады намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Папулярны паэт і бард напісаў адпаведную заяву, якую літаральна праз пару дзён будзе разглядаць Рада Саюза. Прычым, як распавялі “Народнай Волі” тыя, хто ведае пра канфлікт, паэт паставіў пытанне рубам: альбо сыходзіць ён, альбо старшыня Саюза **Барыс Пятровіч**.*

*Дык з-за чаго сыр-бор?*

**Эдуард Акулін** не хоча абмяркоўваць гэтую тэму з прэсай. Пацвердзіў толькі, што сапраўды сыходзіць з пасады намесніка. І папрасіў пра гэта ўвогуле не пісаць. **Барыс Пятровіч** распавёў пра гэтую сітуацыю, цяжка ўздыхнуўшы.

— Ён напісаў заяву аб сыходзе з пасады намесніка старшыні, і гэтую заяву мы будзем разглядаць на пасяджэнні Рады, якое адбудзецца 14 лютага, — *гаворыць кіраўнік Саюза.* — Мне абсалютна незразумелыя ягоныя паводзіны і я не магу дакладна сказаць, з-за чаго склалася такая сітуацыя. Таму што ніякага канфлікту паміж намі не было. Было непаразуменне, але яно здарылася ў прысутнасці сведак — мы якраз усе разам ехалі ў аўтобусе.

**— А вы з Акуліным спрабавалі паразмаўляць сам-насам?**

— На жаль, ён не ідзе на кантакт. Думаю, якраз на Радзе ўсё высветлім.

Не ведаю, ці варта пра гэта пісаць, бо гэта ўнутраны канфлікт...

Мы столькі гадоў сябравалі, не ведаю нават, што і казаць... Спрэчкі не было, сваркі таксама. Было невялічкае непаразуменне, пра якое я нават не хачу казаць... Мы сядзелі побач у аўтобусе, у той сітуацыі я быў кіраўніком дэлегацыі і вымушаны быў папрасіць яго паводзіць сябе не так узрушана... Людзі думаюць, што паміж намі канфлікт, але нічога не было. І мне шкада, вельмі шкада, што так адбылося, бо мы столькі гадоў сябравалі, знаёмыя блізка, жывём побач... Усё можна было вырашыць на месцы, але ён чамусьці не пайшоў на кантакт, затаіў нейкую крыўду, што для мяне незразумела, нелагічна і нечакана. І рабіць з гэтага нейкую прычыну для канфлікту, мне падаецца, абсурдна...

**Марына КОКТЫШ.**

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# Запоздалая реабилитация

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

## Что такое реабилитация и на кого она распространяется?

В свое время (в 1980—1990-е гг.) мне довелось исследовать тему оправдательных приговоров в Беларуси, а также порядок реабилитации лиц, незаконно привлеченных к уголовной ответственности. Это темы моих диссертаций и первых монографий.

В своей монографии я даю определение реабилитации в уголовном процессе как "признание в установленном порядке невиновности гражданина, привлеченного к уголовной ответственности без достаточных к тому оснований, с последующим восстановлением его в правах и честном имени" *(см.: Пастухов М.И. Реабилитация невиновных в уголовном процессе: основы правового института. — Минск: "Университетское", 1993).*

То есть реабилитация предполагает признание человека невиновным в совершении преступления, о чем выносится оправдательный приговор или постановление о прекращении уголовного дела ввиду отсутствия события преступления, отсутствия в действиях лица признаков состава преступления или недоказанности участия лица в совершении преступления.

Далее незаконно пострадавшего надо восстановить во всех правах: восстановить на работе, выплатить заработок за время вынужденного прогула, оплатить расходы на адвоката, судебные издержки, компенсировать расходы на восстановление здоровья и медицинскую реабилитацию, возместить любые убытки, которые он понес в связи с незаконным привлечением к уголовной ответственности.

И, конечно, пострадавший вправе потребовать компенсировать моральный вред, который ему пришлось испытать, когда его заключили под стражу, а позднее направили в места лишения свободы. Каких-то низших и высших пределов суммы морального вреда не установлено. Поэтому вопрос решается с опорой на мнение самого пострадавшего, а также судей, принимающих решение по этому вопросу *(в случае с Андреем Бондаренко сумма компенсации морального вреда за незаконное задержание, заключение под стражу и незаконное осуждение из первоначально заявленных 400 миллионов уменьшилась до 100 миллионов. — **Авт.**).*

Как показывает судебная практика, в Беларуси мало кто из оправданных или незаконно осужденных ставит вопрос о своей реабилитации. По разным причинам. Одни знают, что "выбить" у государства деньги за "плохую" работу следователей, прокуроров и судей очень сложно (А.Бондаренко затратил на это два (!) года). Другие опасаются, что их инициатива может вызвать недовольство у тех работников милиции, следователей, прокуроров и судей, которые "собирали" его уголовное дело, и поэтому они могут предпринять какие-то ответные действия.

Еще одной причиной, которая не позволяет использовать институт реабилитации в полном объеме, является его несовершенная регламентация в Уголовно-процессуальном кодексе (глава 48). Так, в главе прямо не говорится о праве лица, незаконно привлеченного к уголовной ответственности, на реабилитацию, а закрепляется только обязанность органа, ведущего уголовный процесс, принять соответствующие меры.

К лицам, имеющим право на возмещение вреда, относятся обвиняемый, оправданный судом, подозреваемый или обвиняемый, уголовное преследование против которого прекращено по так называемым реабилитирующим основаниям, а также лица, незаконно помещенные в психиатрическое (психоневрологическое) учреждение, либо лица, к которым незаконно применена принудительная мера безопасности и лечения. Сюда же относится и юридическое лицо, которому в результате незаконных действий органа, ведущего уголовный процесс, причинен вред либо нанесен ущерб деловой репутации (ст.461 УПК).

Как видим, наряду с лицами, признанными невиновными, в список лиц, имеющих право на возмещение вреда, включены субъекты, имеющие такое право по другим основаниям. То есть институт реабилитации в УПК в чистом виде не закреплен.

Вопросы, связанные с компенсацией морального вреда в денежном выражении, предлагается решать в порядке гражданского судопроизводства в сроки, предусмотренные законодательством (ч.2 ст.465 УПК). Это значительно растягивает по времени процесс реабилитации и лишает пострадавших от органов уголовного преследования шансов на получение значительных сумм компенсации.

## О реабилитации политических заключенных

Как известно, ведущие европейские организации (Европейский Союз, Совет Европы, ОБСЕ) в качестве условия возобновления отношений с официальным Минском требуют осуществить реабилитацию партийных и общественных активистов, которые были осуждены за участие в акции на площади Независимости 19 декабря 2010 года и иные действия, признанные преступными.

Возникает вопрос: как эта реабилитация может выглядеть? Здесь возможны несколько вариантов.

**Первый вариант:** освободить без всяких условий Николая Статкевича, Дмитрия Дашкевича, Эдуарда Лобова, Павла Северинца, Николая Автуховича, Алеся Беляцкого и других лиц, признанных правозащитными организациями политзаключенными.

Но будет ли это реабилитацией? Ведь в отношении этих лиц остаются неотмененными обвинительные приговоры. Они продолжают считаться осужденными со всеми негативными последствиями (судимость, превентивный надзор и др.).

Неслучайно администрация тюрем и исправительных колоний так усиленно добивается от "политических" написания прошений о помиловании. Тогда появляются основания высочайшим указом помиловать этих лиц и отпустить "с миром".

Но после помилования осужденные оказываются только на "свободе" и не вправе требовать компенсации вреда и восстановления в нарушенных правах. То есть перед лицом государства они остаются преступниками, которых отпустили на свободу.

**Второй вариант:** приговоры в отношении указанных лиц подлежат пересмотру в порядке надзора (если надлежащим субъектом будет принесен протест с обоснованием необходимости пересмотра приговора) или по вновь открывшимся обстоятельствам (например, если найдутся свидетели, которые покажут, что эти лица не причастны к инкриминируемым им деяниям). В случае, если при новом судебном рассмотрении выяснится невиновность указанных лиц, то они получат право на реабилитацию.

Представляется, что белорусские власти не захотят использовать этот вариант, поскольку надо будет признать свою "ошибку" в отношении безвинно пострадавших лиц.

**Третий вариант:** принять специальный закон о реабилитации политических заключенных в Беларуси. Список политических заключенных, как и период времени репрессий, может быть раздвинут в зависимости от того, кто будет разрабатывать такой закон и когда будет приниматься этот закон.

В таком случае надо будет создавать авторитетную общественную комиссию, которая будет рассматривать заявления пострадавших от действий властей и при наличии к тому оснований составлять предписания о пересмотре судебных дел.

Кроме того, неизбежно встанет вопрос о создании специального органа, уполномоченного на рассмотрение претензий граждан к тем или иным представителям власти по поводу нарушения их прав и свобод.

Очевидно, что действующую власть и ее служителей такой вариант тоже не устроит. Поэтому в нынешних условиях реабилитация политических заключенных может ограничиться лишь их освобождением из мест лишения свободы и отменой иных видов уголовного наказания. На большее власть пойти не сможет. И даже извинений от нее политические заключенные не дождутся, не говоря уже о применении каких-либо компенсационных мер.

Таким образом, тема реабилитации лиц, незаконно привлеченных к уголовной ответственности, начинает приобретать общественную значимость. Пока она затрагивает отдельных лиц, не связанных или мало связанных с политикой. Со временем вопрос о реабилитации может быть поставлен шире. Сначала — в отношении политических заключенных, а позднее — в отношении всех, кто пострадал от незаконных действий представителей власти.

Реабилитация всегда является запоздалой...

НА ВОЛЮ!

## *Палітвязень Васіль Парфянкоў выйшаў з-за кратаў*

*Васіля Парфянкова вызвалілі 9 лютага ў 11.00. Каля варот, што аддзяляюць волю ад нявoлі, яго чакалі сябры і журналісты.*

Васіль Парфянкоў быў першым, каго судзілі за Плошчу. Яго накіравалі адбываць 4 гады зняволення ў Оршу, а 11 жніўня 2011 года палітвязня выпусцілі, згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі аб памілаванні. Праз год Парфянкова арыштавалі на 6 месяцаў, абвінаваціўшы ў парушэнні правілаў прэвентыўнага нагляду.

Падчас свайго арышту Васіль атрымаў столькі лістоў падтрымкі з розных канцоў свету, што яму спатрэбіліся дзве торбы, каб іх вынесці з сабой на волю. Васіль сказаў сваім сябрам, што адміністрацыя даволі часта затрымлівала перадачу лістоў. Некаторыя да яго даходзілі са спазненнем на 2—3 тыдні. Пры гэтым палітвязень не скардзіўся на ўмовы ўтрымання, і гэта нягледзячы на тое, што адбываць свой тэрмін яму давялося не ў арыштным доме, а ў Баранавіцкім следчым ізалятары. Такая мера, як арышт з утрыманнем пакараных у арыштных дамах, у беларускім заканадаўстве ёсць ужо некалькі гадоў, а вось саміх арыштных дамоў дагэтуль так і не пабудавалі. Васіль сказаў, што яшчэ не ведае дакладна, чым будзе займацца, і пажартаваў, што пакуль можа думаць толькі аб тым, што хутка прыме ванну.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЧУЛІ?

## *«Дажынкі-2013» пройдуць у Жлобіне*

Сёлетні рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі пройдзе ў другой палове верасня ў Жлобіне Гомельскай вобласці. Адпаведнае распараджэнне А. Лукашэнка падпісаў 8 лютага.

Для падрыхтоўкі і правядзення фестывалю-кірмашу ўтвораны арганізацыйны камітэт пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Русага.

ФАКТ

## *Купілі менш валюты*

У Беларусі чыстая купля наяўнай і безнаяўнай валюты з боку насельніцтва ў студзені 2013 года знізілася да 78,1 млн долараў у параўнанні з 263,4 млн долараў у снежні 2012 года.

Такія звесткі паведамілі ў Нацыянальным банку.

У прыватнасці, у студзені 2013 года насельніцтва прадало 583,1 млн долараў наяўнай валюты (на 8,3% больш, чым у снежні 2012 года), купіла — 606,1 млн долараў (на 15,8% менш). У выніку чысты попыт па наяўнай валюце з боку насельніцтва склаўся ў памеры 23 млн долараў (супраць 181,3 млн долараў у снежні 2012 года).

Але не трэба забываць, што ў снежні — апошнім месяцы года, звычайна заробкі значна большыя, чым на працягу года. Значыць, можна меркаваць, што рублёвыя лішкі ў снежні людзі пераводзілі ў валюту.

## *Заручыцца кантрактам*

*За год у Мінску маладажоны склалі больш за тысячу шлюбных кантрактаў*

Мода на шлюбныя дамовы ў нашай краіне з'явілася нядаўна. Першы такі кантракт датуецца 1999 годам. Тады статыстыка па ўсёй Беларусі ледзь перавышала 20 дамоў за год. Сёння гэтая лічба прыкладна роўная тром тысячам.

Паводле слоў спецыялістаў, у Беларусі сёння такая дамова мужа і жонкі ў сярэднім займае ад 2 да 15 старонак. Прычым асобныя ўмовы кантракта можна дапаўняць і мяняць як падчас шлюбу, так і пасля разводу. Беларускія пары ў такіх дамовах звяртаюць увагу на немаёмасныя пытанні.

ПРЫГАВОР

## *Быў турэмшчыкам, стаў вязнем*

Намеснік начальніка Мазырскай калоніі №20 асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі.

Такі прыгавор вынес Бабруйскі міжгарнізонны ваенны суд, які адправіў былога турэмнага начальніка адбываць пакаранне ва ўмовах узмоцненага рэжыму, таму цяпер ён пазнае іншы бок турэмнага жыцця.

Крымінальная справа ў дачыненні да намесніка начальніка калоніі была распачата ў красавіку 2012 года па частцы 3 артыкула 430 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры асобай, якая займае адказнае становішча). У крымінальнай справе фігуравалі тры эпізоды атрымання хабару ад сваякоў асуджаных. Самы буйны — атрыманне ў якасці "падзякі" аўтамашыны "Аўдзі". Такі шчодры "дар" намеснік начальніка калоніі прыняў ад сваякоў асуджанага, які адбываў 13-гадовы тэрмін зняволення, "за спрыяльнае вырашэнне пытанняў аб паляпшэнні ўмоў адбыцця пакарання". Пры гэтым адпрацаваў "падарунак" адзін з кіраўнікоў калоніі сумленна (што, дарэчы, бывае не заўсёды): зняволенаму, за якога "паклапаціліся", у калоніі былі створаны максімальна спрыяльныя ўмовы.

Прыгавор яшчэ можа быць абскарджаны, таму прозвішча турэмшчыка, які так высока ацэньваў свой "клопат", мы не называем.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

МЕДСПРАВКА

# Выпил и попал в больницу — лечись за свой счет?

***Судя по всему, поправки в Закон о здравоохранении, которые предусматривают возмещение затрат на лечение пациентами, которые попали в медицинское учреждение по вине алкогольного или наркотического опьянения, будут приняты.***



На недавней встрече с министром здравоохранения Василием Жарко Александр Лукашенко дал понять, что это неправильно, когда *"у нас можно напиться, ногу сломать, потом государство за счет других людей лечит"*.

Пациентов, которые в стадии опьянения попадают в больницы, ежегодно регистрируется до 100 тысяч человек. Это почти каждый шестой пациент. Более того, согласно проекту поправок в закон, находящимся в состоянии алкогольного опьянения будет считаться пациент, в крови которого обнаружат всего 0,3 промилле алкоголя — это приблизительно бокал сухого вина или пол-литровая кружка пива. То есть, выходит, брать деньги за лечение будет с кого. И суммы, можно предположить, будут немалые.

Но насколько разумны предложения Минздрава в стране, где бой с пьянством ведется не один десяток лет? А победить его не получается. Мнения врачей разделились. Многие считают, что поправки "сырые", вызывают много вопросов. Те, кто работает на передовой медицинской помощи — в приемных покоях, на "скорой помощи", инициативу поддерживают. Но с оговоркой.

— *В данном предложении есть плюсы, но есть и минусы,* — говорит фельдшер "скорой помощи" с 25-летним стажем **Александр Волчанин**. — *Я согласен, что те, кто постоянно поступает в медучреждения будучи пьяным или вызывает "скорую" в таком состоянии (а таких немало), — должны оплачивать медуслуги в полном объеме. Например, сотрудники нашей подстанции таких клиентов хорошо знают. Они если не ежедневно, то через день вызывают "скорую помощь" по любому поводу. Например, буквально на днях ночью я приехал по вызову: мать позвонила на "103" с жалобой на плохое самочувствие сына. Оказалось, что он третий день в запое, и несчастная женщина не знала, как его вывести из этого состояния. Позвонила в "скорую".*

*Но может быть и другая ситуация. Рабочий БЕЛАЗа, который исправно платит налоги, был на дне рождения друга, немного выпил, возвращался из гостей — упал и сломал ногу. С него что, брать деньги за лечение? И кто виноват в том, что он упал, — гололед или алкоголь? Кроме того, алкоголь может спровоцировать хронические болезни, но ведь бокал шампанского на Новый год выпивает буквально каждый. Как будут поступать в такой ситуации?*

*Мне кажется, если мы начнем недифференцированно, неадресно брать деньги с таких пациентов, эти вызовет возмущение в обществе. Не исключаю, что будут судебные разбирательства.*

*Удивляет и то, как эти поправки вносятся. Вы где-нибудь слышали, чтобы эта инициатива обсуждалась? Свое мнение высказывали врачи, профсоюзы, обычные граждане? Почему у нас нет, как, например, в Украине, России, общественного совета при Минздраве, на котором обсуждались бы такие острые, болезненные, касающиеся буквально всех граждан страны вопросы. Тогда бы поправки разрабатывались с учетом общественного мнения, а не кулуарно.*

Министр здравоохранения Василий Жарко на одной из пресс-конференций заявил, что над данными поправками в ведомстве работали не один год. "Эту норму мы давно предусматривали, но впервые внесли ее в законопроект, — отметил Василий Жарко. — Я думаю, что в случае принятия закона с этой нормой у граждан будет больше поводов задуматься о здоровом образе жизни".

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

## *Вместо платы за лечение — водочный медицинский налог*

*Новую инициативу Минздрава мы попросили прокомментировать бывшего министра здравоохранения Беларуси **Игоря ЗЕЛЕНКЕВИЧА**.*



— Есть основной закон, по которому мы живем, — это Конституция, и там по этому поводу ничего не сказано, — замечает Игорь Борисович. — 45-й статьей Конституции нам гарантировано право на бесплатное медицинское обслуживание, и эту статью еще никто не отменял.

То, что Минздрав поставлен сегодня в жесткие финансовые условия, — это да. В мою бытность министром здравоохранения на медицину выделялось 5,2% от ВВП, и это считалось мало. Сегодня — это 4,3%. Ведомство вынуждено искать средства. Но как зарабатывать — это уже другой вопрос. Есть различные пути привлечения денег в здравоохранение. Но брать деньги за лечение с больных, которые попали в клинику из-за того, что находились в состоянии алкогольного опьянения, — мера не бесспорная. Безболезненно ее встретили бы в обществе, где не так сильны традиции употребления алкоголя, как в Беларуси, где алкоголь не продается повсеместно, где нет такого огромного выбора дешевых вин и настоек.

Много вопросов возникает и по поводу реализации на практике данных предложений. Пьянствуют в основном асоциальные элементы. Смогут ли они возмещать затраты на свое лечение? Или это будут перекладывать на плечи тех, кто нормально работает, платит налоги, но по стечению обстоятельств попал в больницу, будучи в состоянии опьянения?.. Не станет ли такая форма борьбы с пьянством почвой для коррупции среди медиков? Чтобы не возмещать затраты на лечение, которые могут составить несколько тысяч долларов, пациент "решит" этот вопрос с лечащим врачом за гораздо меньшую сумму. Значит, опять крайними сделают врачей.

Бесспорно, стремление приучить людей отвечать за свои поступки — это правильно: поднимаешь рюмку — подумай о последствиях. Но прежде чем предпринимать действенные меры, надо семь раз подумать, провести обсуждение, а потом — отрезать.

Я, например, уже высказывал свое мнение по данному поводу. На мой взгляд, целесообразнее было бы ввести так называемый водочный медицинский налог на каждую бутылку спиртного. И каждый бы знал, что если, условно говоря, бутылка водки стоит 50 тысяч, то 10 тысяч идут на здравоохранение. Ведь в цену на бензин закладываются налоги на дороги, и все считают это разумным: тот, кто ездит, тот больше эксплуатирует дороги, значит, и должен больше платить за их содержание. Так и здесь: больше пьешь — больше рискуешь заболеть. И цена на спиртные напитки становилась бы выше.

К СЛОВУ

## *Пьяных пациентов наказывают*

Практика наказания пациентов, которые нанесли ущерб своему здоровью будучи в состоянии алкогольного или наркотического опьянения, появилась еще в советские времена. Тогда такому пациенту не выписывали больничный лист, а выдавали справку. По этой справке рабочие дни, которые из-за болезни человек был вынужден пропускать, не оплачивались.

Сейчас всем пациентам выдаются листки нетрудоспособности, но если человек обратился в больницу или клинику в состоянии алкогольного или наркотического опьянения, в больничном делается соответствующая пометка. И уже работодатель решает, как поступить с таким работником. Ему могут не оплатить больничный или оплатить не в полном объеме, а, к примеру, наполовину. Если же в комиссию по назначению пособий работник представит документы, подтверждающие, что причиной травмы явилось не употребление алкоголя, а виновные действия других лиц, то он может рассчитывать на назначение пособия в полном размере. Таким документом может быть, например, решение суда.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

# Почему молчит Виктор Лукашенко?

Не так давно в МВД прошла коллегия, во время которой подвели итоги минувшего года и определили задачи на нынешний. Среди тех, кто посетил коллегию, было немало высоких гостей — помощник президента по национальной безопасности **Виктор Лукашенко**, госсекретарь Совета безопасности **Леонид Мальцев** и его заместитель **Александр Коновалов**, председатель Постоянной комиссии Палаты представителей по национальной безопасности **Александр Межуев**, начальник управления по вопросам обороны и правоохранительных органов аппарата Совмина **Дмитрий Кирющенко**, генпрокурор **Александр Конюк**, председатели Следственного комитета и КГБ **Валентин Шаев** и **Валерий Вакульчик**, председатель центрального совета БФСО "Динамо" **Юрий Бородич.**

О мероприятии содержательно рассказала милицейская газета. Причем ее журналист весьма подробно остановился практически на каждом чиновнике, выступающем с речью. Однако, как следует из заметок с коллегии, помощник президента по национальной безопасности не сказал офицерам МВД ни слова. Ни одной цитаты **Виктора Лукашенко** с данной коллегии не дают и информационные агентства. Выходит, отсиделся молча?

Нельзя сказать, что Виктор Лукашенко ведет замкнутый образ жизни и всячески сторонится публики. Он периодически посещает некоторые публичные мероприятия, недавно по телевизору рассказали, как он вместе с женой и детьми навестил в Минске многодетную семью. Виктор Александрович регулярно появляется и на различных совещаниях, в том числе и тех, которые проводит его отец. Однако при этом на кадрах, которые в конечном итоге доходят до простого зрителя, он, как правило, молчит.

В должности помощника президента по национальной безопасности Виктор Александрович не дал ни одного интервью и комментария журналистам, хоть поводов было хоть отбавляй. Не хочет привлекать к себе внимания, сторонится прессы, боится неудобных вопросов?

В 2003 году Виктор Лукашенко дал интервью "Комсомольской правде" — его и сейчас легко можно найти в интернете. Тогда он еще не был чиновником и рассказывал даже о каких-то личных вещах. Других интервью Виктора Лукашенко интернет-поисковики не выдают...

Александр Лукашенко, общаясь с прессой, как-то заметил, что Виктор в их семье — самый свободолюбивый и независимый. И ярлык *"сын президента"* для него — огромное ограничение. Так что не исключено, что Виктору Александровичу на самом деле есть что сказать, и не только офицерам МВД, но... Возможно, у них с отцом просто семейный договор — когда один говорит, второй не встревает и остается в тени.

### КСТАТИ

Лет десять назад в помощниках президента ходили более-менее заметные персоны, которые появлялись на публике, не шарахались от журналистов и не стеснялись посещать светские мероприятия. Они были узнаваемыми, некоторые даже скандально известными. Например, полковник **Сергей Посохов** в интервью **Юрию Козиятко** на Первом национальном мог отправить оппозицию гавкать на площадь Бангалор (позже Сергей Алексеевич признался, что ему до сих пор стыдно за эту фразу). Или **Иван Пашкевич**, который нынче живет в Америке, он был доступен для тех же журналистов практически в любое время.

Стоит заметить, что сегодня почти все помощники президента предпочитают незаметный стиль работы. Кто узнает в лицо, например, того же **Валентина Рыбакова**, который немало лет отработал помощником президента и недавно перешел работать в МИД? А кто вспомнит, как выглядит **Геннадий Лавренков** (он некоторое время возглавлял Управление делами президента, а потом его перевели в помощники).

Не так давно интернет-газета "Белорусские новости" писала: *"По имеющейся у нас информации, в штатном расписании Администрации президента имеется 16 ставок помощника президента. Семь из них — это главные инспектора по областям и Минску, так сказать, глаза и уши президента в регионах. Еще девять помощников курируют различные общественно-политические и экономические вопросы либо занимаются особыми поручениями главы государства. Обязанности, права и особенности полномочий помощников президента Беларуси регламентированы специальным положением".*

Только нужны ли нам такие бледные, как моль, чиновники?

**Марина КОКТЫШ.**

ЖУРНАЛІСЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# Калі вушы — глухія, а душы — гнілыя...

*Гісторыя пра незайздросны лёс удавы ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Ганны Панамаровай, якая знямоглася трываць чыноўніцкі здзек і гатова кінуцца пад колы цягніка — балазе тыя цягнікі праносяцца пад самымі вокнамі непрыдатнага да жыцця дома...*

Перад тым як наведаць Ганну Пятроўну і яе сына-інваліда ў Шчомысліцах, яшчэ раз уважліва азнаёміўся з адпіскамі, якімі закідалі 84-гадовую жанчыну "адказныя таварышы". З паперчын вынікае, што "таварышы" быццам уніклі ў праблему і пытанне нібыта на кантролі і вось-вось будзе вырашана. Карацей — знаёмая валынка... Клеркі так налаўчыліся гуляць у папяровы пінг-понг, што камар носа не падточыць: па форме — гладка, а па сутнасці... Звернемся, аднак, да самой той сутнасці. Каб чытачу было зразумела, пра што ідзе гаворка, прывяду словы Ганны Пятроўны, адрасаваныя **намесніку старшыні Савета міністраў Рэспублікі Беларусь Анатолю Тозіку** (стыль без рэдагавання, мова ў арыгінале):

"*Наш дом №4 по улице Железнодорожной в д.Щомыслица Минского районного ЖКХ, на который в 1996 году опрокинулся железнодорожный вагон, признан аварийным и непригодным для проживания. Четыре семьи находятся в худших условиях, чем, простите, животные в современных комплексах, где — и вода есть, и отопление, и канализация, и крыши не текут. У нас все наоборот.*

*Котлы в квартирах, в том числе и на втором (!) этаже — это же "взрывчатка в метро", от которой в любую минуту может взлететь на воздух строение вместе с людьми. Ее не замечает Минский облисполком, представитель которого у нас даже не был, а в ответе на жалобу отвечает, что все неполадки устранены. Вранье!*

*Приезжайте, уважаемый Анатолий Афанасьевич, к нам, и вы увидите, как нагло игнорирует местная власть требования Президента — внимательно относиться к обращениям граждан.*

*Обещание, что нас переселят в Колодищи, не вселяет надежды — когда и сколько лет пройдет? Ведь мы по-прежнему проживаем в опасном жилье, где нельзя находиться ни дня, ни минуты. Помогите в переселении наших семей, в том числе инвалидов, иначе может произойти взрыв котла или случиться другая беда.*

*С уважением — вдова ветерана Великой Отечественной войны Анна Петровна Пономарева".*



Ліст Ганны Пятроўны, канечне, не пакінулі без увагі — адрэагавалі. Але якім чынам? Правільна, як і заведзена ў нас: урад скінуў даручэнне аблвыканкаму, той — райвыканкаму, а з ЖКГ далі адпіску... Як у вядомай показцы: Іван ківае на Пятра... Спачатку спадарыню Панамарову праінфармаваў-абнадзеіў намеснік старшыні аблвыканкама **А.Мірчук.** У ягоным лісце недвухсэнсоўна сказана, што жыльцоў дома №4 плануецца адсяліць у запланаваны да будаўніцтва жылы дом, прызначаны якраз для грамадзян, якія пражываюць у аварыйных дамах. Але тут жа спадарыні Панамаровай прапанавалі... "для временного переселения" незаселенае памяшканне манеўранага фонду, якое знаходзіцца ў Каладзішчанскім ваенным гарадку — дом 137, кв.2. *"Исходя из изложенного, в целях обеспечения безопасности жизни и здоровья граждан,* — ледзь не апафеозам гучыць заключны акорд пісьма, — *председателю Минского райисполкома поручено принять незамедлительные меры по переселению жильцов дома 4 по ул.Железнодорожной в п.Щомыслица Минского района и области до окончания строительства жилого дома, предназначенного для переселения их ветхих и аварийных домов".*

Доўга не вагаючыся, Ганна Пятроўна выправілася ў Калодзішчы, каб на свае вочы пабачыць тое жыллё з манеўранага фонду. Пабачыла і — жахнулася... Тады і стала пісаць паўторны ліст Анатолю Тозіку: маўляў, убачылі б Вы, Анатоль Афанасьевіч, тую кватэру, што мне прапануюць, — яна ж згарэла разам з гаспадаром, і зараз у такім стане, што жыць там ніяк нельга... Далей слёзна прасіла ўрадаўца, каб ён прыслаў камісію і каб тая камісія ўвачавідкі пераканалася, што







жыльцы чатырох кватэр дома №4 па Чыгуначнай — на мяжы выжывання... *"Мы по-прежнему,* — чытаю ліст 84-гадовай жанчыны, — *не можем обогреть квартиру, поскольку газовый баллон в метре от печки. И баллон этот никто никуда не переносил — ни МЧС, ни ЖКХ. Местные власти вообще не обращают на наше бедственное положение никакого внимания — они ни разу даже не были у нас...*

*Анатолий Афанасьевич! Новый социальный дом для переселения людей из аварийного жилья уже построен. Но от нас это скрывают, как будто забыли, что заверили Совет министров о предоставлении в нем квартиры семье Пономаревой и другим жильцам.*

*80-квартирный жилой дом в п.Колодищи меня и мою семью устраивает, и только сюда я перееду, а ни в какой другой "сарай". Об этом должны знать в Минском райисполкоме и ЖКХ. Я уверена, что Вы найдете время и доведете начатое дело по спасению жильцов дома №4 до конца".*

Ва ўсёй гэтай гісторыі патыхае не толькі чыноўніцкім фармалізмам, абыякавасцю да маленькага чалавека, але і цынізмам. Уражанне такое, што дзяржфункцыянеры сфакусіраваны на адным: праблема вырашыцца сама сабою... "Мусіць жа, так, — пагаджаецца гаспадыня той самай кватэры, якая даўно не адпавядае ніякім санітарным і тэхнічным патрабаванням і афіцыйна прызнана непрыгоднай для пражывання, — спадзяюцца, што ўсе мы хутка памром і пытанне адпадзе. Проста нікому з тых начальнікаў, да якіх я звярталася з просьбамі-хадайніцтвамі, няма да галоты ніякай справы — ні таму губернатару **Барысу Батуру**, ні яго намесніку **Мірчуку**, ні пракурору **А.Канюку**, ні тагачаснаму дзяржкантралёру **У.Цыдзіку**, ні міністру МНС **Уладзіміру Вашчанку**, ні старшыні Цэнтрвыбаркама **Лідзіі Ярмошынай**, ні Старшыні райвыканкама **Ермашу**, ні ўсім астатнім... Вы толькі паслухайце, што напісаў мне намеснік губернатара **Мірчук**: *"Дополнительно сообщаем, что в соответствии с пунктом 1.10 Указа Президента Республики Беларусь от 14.04.2000 года №185 "О предоставлении гражданам льготных кредитов на строительство (реконструкцию) или приобретение жилых помещений Вы имеете право на получение льготного кредита на строительство (реконструкцию) или приобретение жилого помещения вне очереди. Также Вы имеете право на первоочередное вступление в жилищно-строительный кооператив Минского района (по выбору) на строительство квартиры".*

— Як вам такое?.. Мне 84 гады, муж — былы франтавік-танкіст — памёр у гэтым "хляве", сын — нямоглы інвалід-пенсіянер... Якія крэдыты, які кааператыў?!.. Ці ж гэта не здзек, не цынізм?! Мы ўсё жыццё аддалі чыгунцы, а яна нас... выкінула на сметнік, — справядліва абураецца Ганна Пятроўна.

І распавяла пра сумніўны, на яе погляд, "гешэфт", які меў месца ў 2007 годзе. Аказваецца, жылы дом №4 па вуліцы Чыгуначнай (той самы, у які ўрэзаўся вагон, з-за чаго пайшлі трэшчыны па сценах) быў перададзены ў камунальную ўласнасць Мінскага раёна. З афіцыйнай паперы, падпісанай намеснікам начальніка Беларускай чыгункі **П.Стоцкім**, вынікае, што дом перададзены на баланс КУП "ЖКГ Мінскага раёна" ў адпаведнасці з рашэннем Мінскага раённага выканаўчага камітэта ад 23.11.2006 г. №4481. Але вось што неверагоднае, ну проста дзіва дзіўнае: на момант перадачы (так сцвярджае спадар Стоцкі) дом знаходзіўся ў тэхнічна спраўным стане. З цяжкасцю верыцца: няўжо за якія чатыры гады "тэхнічна спраўны" жылы дом мог ператварыцца ў тое, што паўстала перад маімі вачыма? Такое і напраўду ў самым страшным сне не ўгледзіш: ацяпленне, водаправод, туалет, ванна і, натуральна, каналізацыя — адсутнічаюць... Дах — дзіравы... Ад дажджоў і снягоў усе сцены ў падцёках, літаральна чорныя... У пакоях халодныя скразнякі, паветра настылае, смуроднае... Але самае страшнае, што ў кватэрах — у тым ліку і на другім паверсе, дзе драўляныя перагародкі і перакрыцці, — ацяпляльныя катлы (вельмі падобныя на печкі-буржуйкі), і яны распальваюцца дровамі. Побач з адкрытым пячным агнём, на адлегласці ў адзін метр (уявіце сабе!) — газавыя балоны... Ну, трэба ж людзям неяк гатаваць стравы... У любы момант усё гэта можа палыхнуць-бабахнуць, ды так, што не толькі сілікатныя сцены разляцяцца, але чыгуначныя шпалы з рэйкамі потырч стануць. Двухпавярховая сілікатная халабуда — за якія дзесяць метраў ад чыгуначных пуцей, па якіх грукочуць саставы не толькі з гравіем-шчэбнем, але і з нафтай, бензінам, саляркай, рознымі небяспечнымі матэрыяламі... На гэтым месцы ўжо была катастрофа: перавернутыя цыстэрны (па іншых звестках — платформы з аўтамабілямі) сышлі з рэек і ўрэзаліся ў тарцавую частку будынка. На шчасце, тады нічога не загарэлася, ніхто не пацярпеў. Сцены падлаталі, трэшчыны замазалі, а жытло прызналі небяспечным для пражывання людзей. Прызнаць прызналі, ды толькі жыльцы па-ранейшаму ў абдымку з мінай запаволенага дзеяння... Па-разумнаму, дык Міністэрства па надзвычайных сітуацыях ужо даўно павінна было апламбіраваць пад'езд, а не чакаць, пакуль грымне па-сапраўднаму... Няўжо і ім не хапае паўнамоцтваў?! Не магу паверыць...

І яшчэ адзін цёмны момант... На думку Ганны Пятроўны, КУП "Жыллёва камунальная гаспадарка" Мінскага раёна не за проста так узяла на свой баланс ушчэнт дабіты жылы дом. "Навошта ім браць такую халабуду, ды яшчэ ў межах санітарнай зоны Беларускай чыгункі? — разважае яна. — І потым, перад тым як прыняць нерухомасць на баланс, яе прыводзяць у парадак — рамантуюць, фарбуюць, вылізваюць... А тут — нічога такога і блізка не было. Значыцца, усё гэта некаму выгадна..." Цалкам магчыма, кажа яна, што Беларуская чыгунка кампенсавала, па-іншаму кажучы, выдзеліла, "добрым самарыцянам" жыллё са сваіх фондаў. Інакш навошта райвыканкаму такая абуза? Калі гэта сапраўды мела месца, дык здзейснена правапарушэнне, і жыллёвая квота выкарыстана не па прызначэнні. Ва ўсялякім разе, упэўнена пенсіянерка, пракуратуры варта было засяродзіць сваю ўвагу на нелагічнай, мякка кажучы, здзелцы. Але і тут — цішыня...

— І што будзе, Ганна Пятроўна? — пытаюся ў жанчыны. — Як думаеце жыць далей, у каго возьмеце рады, падмогі?

— А якое жыццё, калі — натуральны Асвенцым, самі бачыце... Іншы раз думаю: за што мне такое гора, за што пакуты? Жыла сумленна, лепшыя гады аддала чыгунцы — маёй дыстанцыі пуці... Гэтаксама і нябожчык-муж: усю вайну прайшоў на сваім танку, потым працаваў на чыгунцы, меў ад кіраўніцтва граматы... Да самай смерці чакаў паляпшэння жыллёвых умоў. І што?! Сканаў у гэтым хляве, не дачакаўшыся... Па ўсім і мяне такое чакае, і ўсіх нас, хто тут гора мыкае. Вунь сусед-чыгуначнік надоечы памёр, яшчэ адна суседка злегла ў бальніцу — у яе адкрытая форма туберкулёзу... Дык ці варта мучыцца? Можа, плюнуць на ўсё ды пакласці галаву на рэйкі?..

Як магу, суцяшаю ўдаву франтавіка, абнадзейваю, а ў самога на душы — аніякай веры: ні ў людскую спагаду, ні ў справядлівасць, ні ў дзейнасць законаў. Ці, можа, памыляюся?.. Хацеў бы памыліцца, але ўбачанае і пачутае не дае аніякай на тое падставы...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

*Мінскі раён.*

КРОПКІ НАД «і»

## Валютных крэдытаў не будзе

У Нацыянальным банку Беларусі не пацвярджаюць інфармацыю, якая з'явілася ў інтэрнэт-СМІ, аб падрыхтоўцы рашэння па аднаўленні валютнага крэдытавання фізічных асоб на будаўніцтва жылля.

*"На дадзены момант ні ў адным з структурных падраздзяленняў Нацбанка, наколькі мне вядома, распрацоўка такога дакумента не ажыццяўляецца",* — заявіў начальнік упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў Нацбанка **Аляксандр Цімашэнка**.

Нацыянальны банк у сярэдзіне 2009 года прыпыніў выдачу беларускімі банкамі валютных крэдытаў фізічным асобам, а ў канцы 2010 года забараніў яго канчаткова. Рашэнне звязана з высокім узроўнем рызыкі па валютных крэдытах.

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## У Расіі зноў вызвалены з рабства беларус?

Кіраўнік аддзялення пасольства Беларусі ва Уфе дарадца Васіль Новак заявіў, што 11 лютага ў дыпмісію звярнуўся беларус Мікалай Шпак, які сцвярджае, што 12 гадоў правёў у рабстве на рыбнай ферме ў Расіі.

Паводле слоў дыпламата, у цяперашні час вядзецца праца па афармленні пасведчання аб вяртанні на Радзіму грамадзяніна Беларусі, у якога пры сабе няма дакументаў. Для гэтага зроблены запыт у Мазырскі РАУС. Аддзяленне пасольства ў Расіі таксама мае намер дапамагчы ў куплі квітка беларусу на радзіму.

Новак адзначыў, што Шпак тлумачыць гісторыю свайго жыцця "неадназначна, таму складана сказаць, утрымлівалі яго ў рабстве ці не". Як сцвярджае Шпак, на працягу 12 гадоў ён працаваў у Расіі, але не заўсёды атрымліваў зарплату. Новак адзначыў, што на пытанне, ці быў Шпак у рабстве, гэта значыць утрымлівалі яго сілай ці не, "адназначнага адказу няма". *"Следчыя органы будуць высвятляць абставіны знаходжання Шпака на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі",* — сказаў прадстаўнік амбасады.

Як паведамлялася раней, паводле слоў Шпака, у апошнія гады ён вырошчваў на возеры рыбу для нейкага палкоўніка МУС Расіі. Новак паведаміў, што, паводле даных прадстаўнікоў праваахоўных органаў РФ, палкоўніка з такім прозвішчам, якую называў Шпак і расійскія СМІ, "у Арэнбургу наогул няма".

## Шлях на Вільнюс

*Дарога цягніком з Мінска ў Вільнюс зойме не больш за дзве з паловай гадзіны, — паведамляюць з прэс-цэнтра Беларускай чыгункі. Але такое стане магчымым не раней за 2015 год...*

Час, праведзены ў дарозе, скароціцца, такім чынам, на паўгадзіны. За кошт чаго? У першую чаргу з-за таго, што памежны і мытны кантроль беларускія службы будуць ажыццяўляць у дарозе, а не на памежным прапускным пункце. Работа ў гэтым накірунку ўжо пачалася, а завяршыцца праз два гады. Пакуль жа цягнік, які мчыць з Мінска ў Вільнюс (і ў зваротным напрамку таксама), праводзіць у дарозе тры гадзіны (без уліку шматлікіх спазненняў). Раней шлях да Вільнюса займаў і таго больш — чатыры гадзіны. Скарачэнне часу да дзвюх гадзін — другі этап па арганізацыі хуткаснага руху паміж дзвюма сталіцамі. Рэалізацыя "хуткаснай" праграмы звязана з тым, што колькасць пасажыраў, якія едуць з Сінявокай у Вільнюс, штогод павялічваецца шматкроць. Толькі летась у згаданым напрамку праехала каля 270 тысяч пасажыраў.

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

РЭГІСТРАТУРА

## Мінская медыцына дзейнічае аўтаномна?

*Старшыня камітэта па ахове здароўя Мінскага гарвыканкама Віктар Сірэнка заявіў, што ў Мінску пакуль не гатовы падключыць прыватныя медыцынскія цэнтры да выдачы бальнічных лістоў грамадзянам.*

У эфіры тэлеканала "Беларусь 1", Сірэнка адзначыў, што *"на сённяшні дзень гэта пытанне вырашаецца".* Пры гэтым ён лічыць, што магчымасць атрымання бальнічнага ліста грамадзянінам у прыватнай паліклініцы, дзе няма такіх чэргаў, як у дзяржаўных медыцынскіх установах, была б добрай падмогай. Але тут пытанне ў іншым — у кантролі бальнічных. *"Пытанне аб якасным складальніку кантролю бальнічных лістоў яшчэ, напэўна, адкрыта для гэтых устаноў аховы здароўя",* — адзначыў ён.

Цікава, што міністр аховы здароўя Васіль Жарко на апошняй калегіі ведамства казаў, што пытанне аб тым, каб надаць прыватнікам права выпісваць бальнічныя лісты, амаль вырашана. Атрымліваецца, што сталічныя чыноўнікі ад медыцыны гэтую ініцыятыву не падтрымалі. Ці гэта проста чарговы прыклад таго, што на словах у нас адно, а на справе — іншае. Бо ўсім зразумела, што ў першую чаргу прыватныя цэнтры, выдаючы бальнічныя лісты, разгрузілі б паліклінікі сталіцы і абласных гарадоў.

РЕЗОНАНСНАЯ ТЕМА

# Как на полтора миллиона прожить матери с ребенком?

*"Народная Воля" уже сообщала о том, что новый закон о государственных пособиях на малолетних детей автоматически превратил работающих предпринимательниц в матерей второго сорта.*

## В чью пользу математика?

Закон вызвал негативную реакцию со стороны матерей, являющихся предпринимателями, у которых на воспитании находятся дети до трех лет. И это несмотря на то, что ежемесячные денежные пособия на них "отвязали" от бюджета прожиточного минимума, "привязав" его к средней зарплате в Беларуси!

До этого независимо от количества малолетних детей в семье ежемесячные денежные пособия мамам по уходу за ними начислялись в размере бюджета прожиточного минимума (880 тысяч рублей), а на ребенка-инвалида шла надбавка к этому минимуму в размере 40% от пособия, что в итоге составляло 1 млн 232 тысячи рублей.

Теперь при начислении будут отталкиваться не от бюджета прожиточного минимума, а от средней зарплаты по стране. По закону среднемесячная зарплата рассчитана исходя из ее размера в III квартале, когда она равнялась 4.037.688 рублям. При этом 35% от этой суммы положено выдавать женщинам каждый месяц на первого ребенка, 40% — на второго и последующих детей и 45% — на детей-инвалидов. Если взять в руки калькулятор и посчитать, то выгоды очевидны: на первого ребенка мамы будут получать каждый месяц по 1.413.190 рублей, на второго и последующих — по 1.615.070 рублей вместо прежних 880.030 рублей, а на ребенка-инвалида — около 1,8 млн рублей.

А как выжить матерям-одиночкам? До Нового года они получали повышенное пособие: воспитывающим ребенка в возрасте до 1,5 лет к бюджету прожиточного минимума давалась надбавка в размере 75% пособия, и это составляло примерно 1,5 млн рублей в месяц, а на ребенка в возрасте от 1,5 лет до 3 лет — надбавка в 40%, то есть около 1,2 млн рублей. В новом законе эти надбавки для матерей-одиночек убрали. И теперь им до достижения ребенком полутора лет придется довольствоваться меньшей суммой.

А ведь, согласно статистике, почти ***каждый восьмой ребенок в Беларуси растет без одного из родителей,*** и сегодня, что тревожит, ***внебрачные дети составляют пятую часть от общего числа новорожденных,*** их в 2,5 раза больше, чем 10 лет назад. Как поведала в свое время заместитель председателя постоянной комиссии по здравоохранению, физической культуре, семейной и молодежной политике Палаты представителей **Елена Шамаль,** по данным переписи населения 2009 года, ***в Беларуси зарегистрировано 157.639 семей, в которых дети в возрасте до 18 лет воспитываются одной матерью. И сейчас в стране в отпуске по уходу за ребенком в возрасте до 3 лет находятся более 41 тысячи матерей-одиночек!***

В то же время тем, кто, как написано в законе, является "*индивидуальным предпринимателем, частным нотариусом, адвокатом; осуществляет предусмотренные законодательными актами виды ремесленной деятельности без государственной регистрации в качестве индивидуального предпринимателя",* дадут половину пособия.

На сайте Министерства юстиции легко найти конкретные цифры по предпринимателям. Так, по состоянию на 09.01.2013 года в базе Единого государственного реестра содержалась информация об 812.407 индивидуальных предпринимателях страны, в том числе 251.030 действующих "ипэшниках", большая часть которых составляют, конечно же, женщины.

## Забота по-белорусски

Индивидуальный предприниматель **Данута Палюшик** воспитывает 10-месячного ребенка. Новый закон о пособиях ее, конечно, совсем не обрадовал. В законе написано, что, если мама-предприниматель хочет получать пособие по уходу за ребенком полностью, а не 50 процентов, она должна временно — на все три года декретного отпуска — закрыть свое "ипэшное" дело. Чиновники утверждают, что открыть дело заново можно будет в любой момент и много времени это не займет.

*"А представляют ли эти советчики, что значит прекратить свой бизнес на такой срок? —* сразу задает вопрос Данута Палюшик. *— Ведь ИП и иже с ними — это не только свидетельство о регистрации и печать. Это — наработанная годами труда клиентура, деловая репутация, заработок в конце концов! Например, сегодня у меня как у индивидуального предпринимателя работает один наемный работник — мой муж, а завтра, возможно, я стану ЧУПом и создам с десяток новых рабочих мест — и буду платить, между прочим, приличные налоги и отчисления в фонд соцзащиты.*

*Речь идет, конечно, не только о деньгах, но, согласитесь, "лишние" 8,5 миллиона рублей в год на дороге не валяются".*

Данута говорит, что и во время беременности работала фактически до последнего.

*"На 9-м месяце беременности узнала, что к нам собирается прийти Госконтроль,* — вспоминает она. *— Сама в это время лежала в больнице на сохранении и умоляла врача отпустить меня на денек. Я не хотела бросать дело, потому что вложила в него не только деньги, но и душу. И в будущем, возможно, передам его своему ребенку. А чиновники безразлично советуют: "Закрой ИП!".*

Естественно, в декретном отпуске те же мамочки-адвокаты и индивидуальные предпринимательницы особенно не наработаются — забот с ребенком выше крыши! А если дело не закрывать, то как прожить на пособие?

*"Разве моему ребенку следует меньше есть? А если ребенок заболел? Ответы очевидны. Если не оставлять работу, то надо искать, чтобы было кому присматривать за малышом, пока ты пропадаешь на работе. С другой стороны, такие родственники далеко не у каждого есть, а няню многие могут и не вытянуть финансово..."*

Марина Пунш сейчас беременна, ребенка она планирует воспитывать самостоятельно. Марина говорит, что после этого закона матери-одиночки задумаются не только о том, рожать ли второго, но и рожать ли вообще, особенно если им некому помочь.

*"На словах у нас вроде бы говорится одно, а на деле выходит совсем другое,* — высказывает свою точку зрения она. *— Раньше матери-одиночки были хоть немного защищены в финансовом плане, а сейчас... Многие, наверное, узнав о беременности, задумаются об аборте. На мой взгляд, при такой заботе о матерях улучшения демографической ситуации не предвидится..."*

ЧУЖОЙ ОПЫТ

## А как у них?

По данным международных исследований, есть в Европе страны, где мамы-декретницы имеют социальную поддержку, о которой в Беларуси могут только мечтать.

**В Исландии** при рождении ребенка семье выплачивают 25 тысяч евро, а маме предоставляют 9 месяцев декретного отпуска с сохранением 80% зарплаты.

**В Швеции** декретный отпуск длится полтора года, при этом первый год мама получает 80% от своей зарплаты, а если она работала в госучреждении, то и все 100%.

**В Германии** в случае готовности обоих партнеров уйти в декретный отпуск государство компенсирует им 14 месяцев отпуска по уходу за ребенком. При этом родители могут сами решать, кто из них и на какой срок уйдет в декретный отпуск.

**Александр КОВАЛЬЧУК.**

*Брест.*

SOS!

# Я все-таки надеюсь, что за тот маленький отрезок, который мне осталось прожить, я почувствую заботу государства

Никогда не думала, что придется писать в газету, со страниц "Народной Воли" обращаться за помощью к бывшим коллегам. Мне кажется, это последняя возможность достучаться до людей в белых халатах.

Я сама в прошлом медицинский работник, а сегодня одинокая пенсионерка со страшным диагнозом "лимфолейкоз". В 1966 году окончила Борисовское медучилище и приехала работать в Крупки. Трудилась фельдшером "скорой помощи" в Крупской ЦРБ. Но через 10 месяцев за своё ответственное отношение к работе пришлось заплатить собственным здоровьем.

В 1967 году в районе свирепствовал грипп. Во время эпидемии в течение трех суток бессменно я выезжала на все вызовы. Выполняла просьбу главного врача А.Л.Володина не оставлять район без "скорой помощи". Спасала людей, хотя у самой уже была высокая температура. Грипп, перенесенный на ногах, дал осложнение: туберкулез легких, туберкулезный мезаденит. Лечение туберкулеза из-за непереносимости противотуберкулезных препаратов сопровождалось отеком хрусталиков и парезом аккомодации — слепотой, язвой двенадцатиперстной кишки, язвенным колитом и другими заболеваниями. За несколько лет такого лечения нарушились обменные процессы, которые вызвали поражение костной системы.

После перенесенных тяжелых заболеваний я не села на шею государства, а, наоборот, бескорыстно усыновила годовалого младенца из Борисовского дома грудного ребенка и одна, без помощи государства на свои средства вылечила его, обращаясь в клиники Ленинграда, Москвы, Минска. Ребенок вырос, а отношения разладились. Он меня не признает, раз я не родная мать. Других родственников у меня нет. Старший брат умер. Племянницы живут в России, в Саратове, ездят на заработки в Москву. Единственное, чем они могут мне помочь, — одеждой.

В настоящее время я оказалась в тяжелом состоянии из-за выраженного нарушения функции опоры и ходьбы. Нуждаюсь в посторонней помощи, самостоятельно не могу пользоваться транспортом (подняться в электричку, автобус и выйти из них). Мои ноги стали как деревянные, не сгибаются, я передвигаюсь с трудом, приходится дважды становиться на одну ступеньку, несколько раз была зажата дверью электрички. Из-за скованности и сильной боли в суставах испытываю затруднения в повседневной жизни, выполнять работу по дому и обеспечивать продуктами питания помогает социальный работник, однако она не имеет права доставлять меня в больницу. А мне нужно регулярно, раз в два месяца посещать Минскую областную больницу. Ко всем моим бедам добавилась еще одна — онкология. И мне необходимо периодически проходить в минской клинике обследование, медицинский осмотр и ложиться на госпитализацию. Но встает вопрос: как добраться до областной больницы? Самостоятельно я не могу. Соцработник сопровождать меня не обязан.

Я обратилась за помощью в Крупскую ЦРБ. Попросила доставлять меня в Минск на машине "скорой помощи". Такие рейсы из ЦРБ совершаются постоянно — машина выделяется для доставки на консультацию, госпитализацию в минские клиники больных из Крупского района. Мне казалось, я просила немного: подсаживать меня на такие рейсы.

Однако мне было отказано, заведующая поликлиникой Г.Н.Голубенко сказала, что они не обязаны каждого возить в областную больницу. Я пыталась объяснить, что я не каждый, что я здесь, в Крупской ЦРБ, потеряла здоровье, собственно, из-за чего и стала одинокой. Некому мне помочь доехать до Минска.

Не получился разговор и с главным врачом Л.М.Ивицем на личном приеме 15 мая 2012 года. Он был категоричен: "Мы не служба соцобеспечения, чтобы вас обслуживать". Но я же не просила для себя личный транспорт, карета "скорой помощи" каждую неделю бывает в Минске.

Мне кажется, что сложные отношения с Голубенко по цепочке сказались на судьбе моих документов, недооформленный посыльной лист прошел по всем МРЭК. И врачи, давшие клятву Гиппократа, этого не захотели увидеть, не усмотрели мою боль, страдания, поэтому не стали решать вопрос по обеспечению меня сопровождающим лицом. Недооформленные документы заметила только председатель Борисовского МРЭК. А остальные поддержали коллегу, которая совершила ошибку. Ввиду такой "поддержки" ортопедно-травматологическая МРЭК Минской области не стала рассматривать заключения областного специалиста. А в РНПЦ медицинской экспертизы и реабилитации вообще поступили странно: 20 июля 2012 года я получила уведомление за подписью зав.консультативно-поликлиническим отделением Н.Б.Волынец, что якобы я дважды была приглашена на консультацию в ГУ "РНПЦ МЭиР", однако не приехала. В связи с вышеизложенным мои документы без рассмотрения вернули в адрес Минской областной МРЭК. Пришлось звонить, дать телеграмму, что я вызова не получала.

В итоге экспертиза признала, что я нуждаюсь в частичном постороннем бытовом уходе, который не включает сопровождающее лицо.

Я до сих пор не могу поверить, что такое возможно в нашей стране!

Хотя... Отказ мне, казалось бы, в элементарном — сопровождении до больцы — это не единственный "пример" заботы о больных людях.

Из-за страшного диагноза "лимфолейкоз" все методы физиотерапевтического и оперативного лечения артроза суставов мне противопоказаны, кроме консервативного. В итоге в 2011 году я приняла таблеток на сумму 1,5 миллиона рублей. Но улучшения никакого. Единственный препарат, который приносит мне временное облегчение, значительно снимает боль, позволяет хоть немного двигаться — "Хай-Флекс" производства Кипр. Белорусских аналогов у него нет. На два курса лечения необходимо 12 шприцов, один стот 500 тысяч, следовательно, на лечение требуется 6 миллионов. У меня нет таких денег (ведь немало трачу и на другие лекарства). А льготный рецепт мне никто не выписывает. Не положено по закону. В поликлинике говорят: делайте операцию на суставах. Но шесть врачей-травматологов, в том числе бывший главврач областной больницы Ю.Н.Ладутько, травматолог с высшей категорией, заявляли мне, что сознательно не будут убивать меня на операционном столе. Мое здоровье не позволяет оперативного лечения. И если я даже не умру во время операции, то не перенесу постоперационный период. Получается замкнутый круг: лекарства мне недоступны, операция противопоказана.

Я писала о своей ситуации и просила разобраться в ней и помочь руководителю Минского облздравотдела И.Масло, первому заместителю министра здравоохранения Д.Пиневичу. Но никто мой вопрос до сих пор не решил.

А я все-таки надеюсь, что за тот маленький отрезок, который мне осталось прожить, я почувствую заботу государства. Что мои коллеги все же не бросят меня в беде. Неужели доставить меня в Минскую областную больницу на машине "скорой помощи", которая туда направляется, и выписать льготный рецепт — это такая большая цена за подорванное на работе здоровье, результатом чего стала моя искалеченная жизнь, боль, страдания, одиночество? Неужели даже после этого обращения через газету я останусь одна в своих проблемах?!

**Валентина БАЙДАК,**
**инвалид 2-й группы.**

*г.Крупки.*

ГОЛОС ИЗ НАРОДА

## *Не хватает одного...*

В прошлом веке я родился, сразу после войны. Помню, как отнимали у деда и бабки корову, коня, стреляли собак "на мыло", рубили деревья, как мы стояли в очередях за кукурузным хлебом...

Потом изобилие — бурты картофеля, амбары, заполненные зерном. В хозяйствах Кричевского района лен выращивали на 1,5—2 тысячах гектарах.

Что интересно: если после войны цены на продукты постепенно снижались, то теперь только растут. У нас как-то гостила японская делегация из комитета "Помощь детям Чернобыля". И японцы удивлялись: почему мы так бедно живем в богатой стране?

У нас все есть. Земля, вода, лес, калийные соли... Не хватает только одного — рачительного хозяйствования.

**Валерий БЫСОВ,**
**ветеран труда,**
**житель г.Кричева.**

## *Не пенсионеры разоряют государство*

Хотя после той пресс-конференции Александра Григорьевича Лукашенко прошло уже несколько недель, один из фрагментов ее напоминает о себе почти каждый день. Помните высказывание о скупке валюты в обменниках? Оказывается, ажиотаж создали пенсионеры. Такую справку дали президенту помощники, которые своими глазами видели, как старики и старушки скупали по десять, по пять долларов и евро. А всего купили инвалюты более чем на 150 миллионов... Она позарез нужна для модернизации промышленности, а ее запихали в носовые платки и чулки. Такие вот непатриотичные пенсионеры — вредители да и только, путаются под ногами, ковыряют дырки-бреши в четко налаженной финансовой системе.

Уважаемые высокие и не очень высокие начальники! Как у вас язык поворачивается такое говорить президенту? Нашли козла отпущения. Пенсионеры приобретают по пять, десять долларов не потому, что живут припеваючи, пьют, едят в три горла, а их кошельки пухнут от белорусских денег. Горький опыт заставляет меня и моих ровесников страховаться на черный день. За свои немалые годы нас много раз родное государство жестоко обманывало, непутевыми реформами-девальвациями ставило на грань нищеты, превращая скромные сбережения в слезоточивую пыль и пустые бумажки, которые не годятся и для, извините, туалета.

С возрастом человек спит и думает, как бы наскрести толику "гробовых", как бы не заставить детей и близких, опустив очи долу от стыда, бегать с шапкой по кругу, чтобы более-менее сносно похоронить своего родителя, справить поминки, поставить незамысловатый камень-обелиск.

Вот о чем вам всем нужно задуматься, а не представлять нас, пенсионеров, президенту как неких разорителей государства.

**Николай РЕЕНТ,**
**77 лет, в некоторых странах СНГ**
**имел бы статус "Дитя войны".**

ТАК ДУМАЮ!

## *Яны парушаюць Канстытуцыю*

Прачытаў у "Народнай Волі", як чыноўнік з Мінгарвыканкама адказала журналісту на пытанне, дзе можна азнаёміцца са спісам тых, хто атрымаў зямлю ў Драздах па даручэнні Лукашэнкі: "Это материал для служебного пользования". Такой фразай нашы чыноўнікі прыкрываюцца нярэдка (ведаю з асабістага вопыту). Мне падаецца, што яны парушаюць Канстытуцыю, яе артыкул 34, у якім адзначаецца, што дзяржаўныя органы абавязаны прадаставіць грамадзяніну Беларусі права азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы.

**Васіль ПІНЧУК.**

*г.Бабруйск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Свет нямілы? Пі «чарніла»!

**У Беларусі колькасць псіхічна хворых людзей павялічылася ўдвая (на ўліку каля 500 тысяч чалавек). І большасць беларусаў ад гэтай хваробы лечыцца не таблеткамі, а спіртовымі напоямі.**

*У кожнага (зусім не тайна)*
*Ёсць у мазгах хоць нейкі звіх:*
*Паслухаеш — ён мысліць файна,*
*А калупнеш глыбей — дык псіх.*
*Хто вечна ходзіць адрачоным,*
*Хто жонку нізашто "дзяўбе",*
*А хто наўпрост Напалеонам*
*Усё жыццё лічыў сябе...*
*Ну а ці ходзіць з нас каторы*
*Да дактароў хоць раз у год?*
*І ў выніку псіхічна хворы*
*Цяпер амаль увесь народ.*
*...Гняла дэпрэсія Ігната*
*(Таму ў сям'ю прыйшоў разлад):*
*І грошай плацяць небагата,*
*І проста радасці няшмат...*
*Ад безвыходнасці і стомы*
*Балела, ныдзела душа.*
*Начамі-днямі, нерухомы,*
*На ложку ён ляжаў спярша.*
*Незадаволенасць душыла*
*І белым светам, і сабой,*
*Хоць ты бяры вяроўку й мыла...*
*Ігнат жа кінуўся ў запой.*
*І ўдзень, і ўвечары, і ўранку,*
*І першы тыдзень, і другі*
*Да вуснаў ён падносіў шклянку,*
*Каб адключаліся мазгі.*
*І неўзабаве, што не дзіва,*
*Азыз, апух ягоны твар.*
*Начальства пазірала крыва,*
*Бо адчувала перагар.*
*Палова сціплага заробку*
*Ішла ў Ігната на прапой.*
*Дык ці не час паставіць кропку*
*У вакханаліі такой?*
*Ва ўсім патрэбна ведаць межы.*
*Дый жонка, бач, "аб'ела плеш":*
*— Няма за што купіць адзежы,*
*А ты, нягоднік, п'еш ды п'еш.*
*Калі псіхоз глыбокі гэткі,*
*Схадзі да доктара, бязмен.*
*Няхай ён выпіша таблеткі*
*Гарэлкі ды віна ўзамен.*
*І хоць нутро пахмелля прагла,*
*Хоць словы жонкі — не загад,*
*Ды каб не засмактала багна,*
*Пайшоў да доктара Ігнат.*
*Той доктар выслухаў зацята,*
*Чаму душэўны стан аслаб,*
*І на паперы для Ігната*
*Рэцэпт накрэмзаў эскулап.*
*Пайшоў з рэцэптам у аптэку*
*І ледзьве не зваліўся з ног:*
*Такой цаны, такога здзеку*
*Ён і ўявіць сабе не мог.*
*Аддаць патрэбна паўзарплаты,*
*Як колісь на прапой, бадай.*
*Спярша пайшоў Ігнат дахаты,*
*Дзе жонка бедная Ігната*
*Сказала:*
*— Так і быць, аддай!*
*Усцешвала сябе кабета,*
*Хоць гэта быў самападман:*
*Крыху пап'е Ігнат таблетак —*
*Паправіць свой душэўны стан.*
*Аднак мінуўся цэлы тыдзень,*
*Ігнату ж не нашмат лягчэй.*
*Таблетак іншых "доктар-злыдзень"*
*Ахвотна выпісаў яшчэ.*
*— Чаму іх кошт такі вялікі,*
*Ігнат пытаецца, — скажы?*
*— Адкінь убок свае падлікі,*
*Бо лекі возяць з-за мяжы.*
*У рэшце рэшт — хлусіць навошта? —*
*Дэпрэсія сышла ў нябыт.*
*Але якім здароўе коштам?*
*Ігнат у банку ўзяў крэдыт,*
*Далі пазыку і суседзі —*
*Залез наогул у даўгі.*
*Тут у любога "дах паедзе"...*
*І "закіпелі" зноў мазгі!*
*Ігнату зноўку свет нямілы,*
*Ляжыць на ложку, як раней...*

* * *

*Сказала жонка:*
*— Пі "чарніла".*
*Яно абыдзецца танней.*

## *Новая кніга Алеся Няўвеся*

*"Слон пад мікраскопам" — так называецца чарговая кніга фельетонаў нашага пастаяннага аўтара Алеся Няўвеся. Вось што ён піша ў сваім "Слове да чытача":*

*На жаль, ужо каторы год*
*Няспешна ці "галопам"*
*Я вывучаю наш народ*
*Нібы пад мікраскопам.*
*Спытае хтось:*
*— Чаму "на жаль"?*
*І адкажу я шчыра,*
*Хаця і з горыччу амаль:*
*Мой мікраскоп — сатыра.*
*Ёй не сябруецца з маной,*
*І ў час нядобры гэткі*
*Сатыра бачыць бруд і гной —*
*Не матылёчкі-кветкі.*
*Жыцця і душ сутонне-дно,*
*Народу "чарка-скварка" —*
*Пад мікраскопам мне відно*
*Усё, што смеху варта.*
*Я ў свой разгледзець мікраскоп*
*Магу "слана і моську"...*
*І хоць камусьці неўспадоб,*
*Хтось будзе бэсціць наўзахлёб,*
*Не кропку стаўлю —*
*Коску...*

Гэты зборнік Алеся Няўвеся — першы за ўсе гады, які з'явіўся ў продажы. Праўда, толькі ў адной мінскай краме — кнігарні "Логвінаў" (пр.Незалежнасці, 37а). У электронным выглядзе кнігу "Слон пад мікраскопам", гэтак жа як і папярэднія зборнікі ("Дзежка дзёгцю", "Адлуп", "Ад аргазму да маразму", "Пустадомкі", "Глобус Беларусі"), можна бясплатна набыць на сайце www.alesnauwes.com, дзе змешчаны і новыя фельетоны аўтара.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Кто тогда народ?

6 декабря 2012 года я была на приеме у члена Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь Нины Федоровны Костян, который проводился в г.Бобруйске. К депутату я обратилась с проблемой нарушения моих прав и прав моего сына, предоставленных нам ст.40 Конституции Республики Беларусь.

Н.Ф.Костян внимательно меня выслушала, просмотрела документы, которые я принесла, задала мне вопросы и сказала, что разберется. Я передала ей обращение. Она оставила себе копии документов. С приема у депутата я ушла с надеждой, что моя проблема будет решена, и стала ждать ответа.

Прошел месяц, начался другой, но ответа я так и не получила.

29 января 2013 года я снова пришла на прием к Н.Ф.Костян. На этот раз Нина Федоровна вела себя совершенно иначе. Ее даже не смутил тот факт, что она не дала мне ответ на обращение, переданное ей на предыдущем приеме. Когда я спросила, почему нет ответа на мое обращение, она ответила: "У вас не было конкретного вопроса ко мне". Она говорила, что по делу моего сына решение вынесено судом и никто не имеет права вмешиваться.

Я повторила депутату суть своего обращения. Я не прошу вмешиваться в решение суда, тем более оценивать его (суда) выводы. Я просила разобраться и помочь решить проблему отписок, то есть восстановить наши права, предоставленные нам ст.40 Конституции Республики Беларусь.

Однако депутат Н.Ф.Костян меня не слушала и не хотела слушать. "Вы не имеете права... Ваш сын совершеннолетний и должен сам обращаться в государственные органы... с вами законно прекратили переписку..."

Я была в недоумении, мне было непонятно, почему так резко изменилось поведение депутата. Но еще больше меня поразило заявление Н.Ф.Костян: "У вас нет доверенности от сына".

Да, действительно, срок действия доверенности от сына закончился в декабре 2012 года. Мой сын, отбывающий заключение в ИК, пытается дать мне новую доверенность для решения его вопросов в государственных органах, но в колонии отказываются ее заверить.

Оказывается, депутат была проинформирована о том, что срок доверенности истек и что моему сыну отказано в продлении доверенности. Она знала, что права моего сына, предоставленные ему ст.62 Конституции Республики Беларусь, нарушены, но вместо того, чтобы помочь восстановлению прав моего сына, она использовала этот факт против меня на приеме, чтобы прекратить прием и отказать в разрешении проблемы отписок.

Я напомнила депутату Костян, что депутаты являются представителями народа и обязаны принимать меры по обеспечению прав и законных интересов граждан. В ответ на мое замечание помощник депутата Виктор Данилович Горбунов заявил: "А вы не народ". Когда я пришла в себя от шока, вызванного заявлением В.Д.Горбунова, я спросила: "А кто, я по вашему мнению?.." Горбунов не ответил. Я несколько раз опять переспросила у Горбунова: если я не отношусь к народу моей страны, то кто я? Горбунов молчал, молчала также и депутат Н.Ф.Костян, выражая, по моему мнению, тем самым согласие с заявлением своего помощника.

Вот с этим вопросом — "Кто я?" — покинула кабинет в горисполкоме, где проходил прием граждан, и на этом закончилась моя встреча с депутатом Костян.

Получается, что на земле моих предков, в своей стране моя семья не является частью народа? Мы с мужем граждане Республики Беларусь. Наши предки воевали и защищали эту землю, всю жизнь трудились на этой земле. Трудом наших предков создавалась эта страна. Мы всю свою жизнь трудились в этой стране, мой муж — ветеран труда, я пенсионер, но мне заявляют, что я не отношусь к народу своей страны.

Это возмущает и заставляет задуматься о том, что происходит в моей стране, так как ничего подобного в своей жизни раньше мне не приходилось слышать. Из всего случившегося я делаю только один вывод: депутаты представляют только интересы чиновников. Я считаю, что в нашей стране народ никем и ничем не защищен, а значит, он (народ) должен защищать свои права сам.

**Валентина Михайловна**
**КОВАЛЕНКО.**

*г.Бобруйск.*

ДЕЛА ЖИТЕЙСКИЕ

## *Заврались...*




Уважаемая редакция! К вам вынуждены обратиться два одиноких пенсионера со своей бедой.

Пришла зима, и начались наши проблемы. Зима, как известно, и снежок подкинет, и про мороз не забудет, и про оттепель тоже. ЖКХ г.Пинска так работает, что пинчанам пройти по многим улицам города невозможно. Если проезжая часть еще коекак чистится, то о тротуарах этого не скажешь. Их не то что не везде чистят, их даже не посыпают. В нашем возрасте приходится часто обращаться за врачебной помощью. И поликлиника рядом, но по неубранным тротуарам нам не доползти.

Неоднократно мы обращались по данной проблеме к директору ЖКХ А.А.Юму, но наши обращения остаются без ответа. Видя такое к себе отношение, 10.01.2013 г. мы обратились на "горячую линию" Пинского горисполкома. Нас выслушали и пообещали, что уже к концу дня тротуар посыпят. 14 и 15 января мы вновь обращались на "горячую линию", так как директор ЖКХ Юм и не думает ничего подобного делать.

20 января 2013 года из ЖКХ г.Пинска мы получили ответ, в котором говорится не об ул.Восточной, а об ул.Урицкого: якобы 16.01.2013 г. ул.Урицкого обследована комиссией и скольких участков на проезжей части улицы нет. Но это ложь, так как и по ул.Урицкого ни пройти, ни проехать. Из ответа следует, что комиссия и акт составила. Мы неоднократно обращались в ЖКХ за актом, но нам его так и не дали. Копию акта нам выдали в горисполкоме. Ознакомившись с актом, мы поняли, почему ЖКХ нам отказалось выдать акт. Ответ и акт противоречат друг другу. В ЖКХ г.Пинска вместо уборки тротуаров от снега занимаются обманом пенсионеров. Руководство Пинского ЖКХ так завралось, что уже и не помнит, какие документы подписывает. Эту ложь отправляет и руководству горисполкома, которое это устраивает. Вот так мы оказались заложниками ЖКХовского беспредела.

Вот как относятся к пенсионерам чиновники в социально ориентированном государстве.

Кто же из чиновников ответит за эту ложь и бесчеловечность, мы бы хотели знать.

**Н.Д.ГЕРАСИМЧУК,**
**П.Г.САВИЦКАЯ.**

*г.Пинск.*

НА ЎЛАСНЫЯ ВОЧЫ

# Міжволі параўноўваю ўкраінскую глыбінку з нашай...

Нядаўна давялося пабываць ва Украіне.

Правінцыяльны гарадок Алеўск — адно са старажытных паселішчаў, якое, як і мае родныя беларускія Глушкавічы, калісьці знаходзілася на тэрыторыі нашага Вялікага Княства Літоўскага. Дагэтуль горад упрыгожвае старадаўні літоўскі (беларускі) герб "Пагоня". Яго са здзіўленнем і радасцю ўбачыў ля каменнай Мікалаеўскай царквы на плошчы, дзе дагэтуль дзейнічае і вядомы Каралеўскі рынак.

Цікава, як жывецца ва ўкраінскай правінцыі, як тут праяўляе сябе мясцовая ўлада? Даведаўся: дэпутацкі корпус гарадской рады складаецца з 32 чалавек. Па партыйным спісе 12 дэпутатаў ішлі ад кіруючай Партыі рэгіёнаў, па чатыры — ад "Свабоды" і "Моцнай Украіны", па тры — ад кампартыі, "Бацькаўшчыны", па адным — ад "Фронту змен", Сацыялістычнай і Народнай партыі. Шырокі спектр палітычных сіл!.. З мінулага года дэпутатамі могуць стаць і беспартыйныя. У складзе галоўнага органа кіравання — прыватныя прадпрымальнікі, работнікі банкаў і фінансавых устаноў, прамысловасці, масавай інфармацыі, лясной гаспадаркі, устаноў самакіравання, ёсць і непрацуючыя пенсіянеры. Вось гэта бліжэй да дэмакратыі.

Выканаўчая ўлада ва Украіне, мне падаецца, у многім падобная на нашу. Але ёсць і адрозненні. Напрыклад, культура і турызм тут аб'яднаны ў адно міністэрства. Гэтак, як адукацыя, спорт, маладзёжная палітыка, што дапамагае пазбягаць непатрэбнага дубліравання. У прамысловасці і сельскай гаспадарцы, на жаль, сітуацыя пакуль нестабільная. Найбольш балючая праблема для ўсіх — цана на газ... Але тут бурна развіваецца прадпрымальніцтва, яно адчувальна падстаўляе плячо дзяржаве.

Цікава, што Украіна працягвае выплаты ўкладчыкам былога Сбербанка СССР. Ужо многім вярнулі грошы. А ў гэтым годзе з дзяржбюджэту на гэтыя мэты выдзяляецца яшчэ 8 мільярдаў грывень.

Алеўскі раён часткова забруджаны радыенуклідамі, і яго жыхары параней шаму карыстаюцца многімі льготамі, выходзяць раней тэрміну на пенсію. 14 снежня ўся краіна адзначае Дзень ліквідатара. А ў нас ліквідатары з гэтага года сталі проста "пацярпелымі". Ва Украіне былыя ліквідатары-чарнобыльцы — моцная грамадская сіла, з ёю лічыцца ўлада. Яны выхоўваюць у моладзі патрыятычныя пачуцці, адданасць сваёй радзіме, як і ўдзельнікі Другой сусветнай вайны.

Дарэчы, адзначаецца ў іх і Дзень партызанскай славы. У Беларусі, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны была партызанскай рэспублікай, што прызнанана ўсімі, такога свята няма. А чаму?

Праходзячы па Каралеўскім рынку, наведваючы крамы ў гарадку і ў прыгранічнай украінскай вёсцы Майдан-Капішчанскі, заўважаеш, што цэны на многія прадуты — цукар, муку, рыбу, алей, ласункі, цукеркі, садавіну і гародніну — ніжэйшыя, чым у нас. Гэта тычыцца і іншых тавараў, у тым ліку і беларускіх. З гэтай прычыны жыхары суседніх беларускіх раёнаў — Лельчыцкага, Жыткавіцкага і Петрыкаўскага — імкнуцца трапіць сюды "на папас". Шмат прыязджае прадпрымальнікаў — не толькі з Гомельшчыны, але і з Міншчыны. Шлях іх ляжыць ад аптовага рынку ў Хмяльніцкім. А ў партовай Адэсе тавары яшчэ таннейшыя. І гэта пры тым, што, як вядома, ва Украіне даражэйшыя, чым у Беларусі, паліва і газ.

Вяртаючыся дадому, назіраеш: уздоўж дарогі часта сустракаюцца магазіны і месцы адпачынку, нават прыдарожная лазня трапілася. А на беларускім баку іншы малюнак. Амаль да Жыткавіч (а гэта 100 кіламетраў) ніякага прыдарожнага сэрвісу. У саміх Глушкавічах, дзе знаходзіцца пераход праз мяжу, колькі год таму намячалася будаўніцтва аўтазаправачнай станцыі, кафэ і іншых патрэбных аб'ектаў. Справа пакуль ні з месца.

На жаль, ва ўкраінскай глыбінцы назіраецца беспрацоўе, моладзь нярэдка выязджае на заробкі. У адрозненне ад беларусаў, якія шукаюць шчасце часцей у Расіі, тутэйшыя жыхары едуць больш у краіны Еўрасаюза і Паўднёва-Заходняй Азіі. Улады не чыняць ім перашкод.

Яшчэ прыемнае ўражанне: ёсць чаму павучыцца нам, беларусам, і ў адносінах паўднёвых суседзяў да роднай мовы. Яны валодаюць ёю і карыстаюцца, хаця і рускую добра ведаюць.

**Уладзімір Мікалаевіч**
**ЗУБРЭЙ,**
**жыхар в.Глушкавічы**
**Лельчыцкага раёна.**

